# НАРОДНЫ ЗВОН

Беларуская радыкальная часопісь. Орган „Цэнтрасаюзу“.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

**Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:**
**Вільня, Вострабрамская 9, кв. 22**

**Прыймо інтэрэсантаў**
ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

**Падпіска з дастаўкай да хаты:**
на 1 год—6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес.—50 гр.

Год I. Вільня, 20 кастрычніка 1930 г. № 2


## Ад Галоўнага Выбарнага К-ту „Беларускага Цэнтрасаюзу“.

Галоўны Выбарны Камітэт Беларускага Цэнтрасаюзу злажыў сьпіскі кандыдатаў у Сойм у 3-х вокругах—Навградзкім, Лідзкім і Сьвенцянскім, а ў Сэнат—у двух ваяводзтвах — Навградзкім і Віленскім. У іншых вокругах Гал. Выбарны Камітэт ня меў магчымасьці выставіць сваіх кандыдатаў дзеля таго, што сучасныя выбары засталі сам „Цэнтрасаюз“ у пэрыядзе начальнай арганізацыі, калі толькі што быў зацьверджаны ўладамі яго статут і пры поўнай, між іншым, адсутнасьці матэрыяльных сродкаў. Гэтая апошняя акалічнасьць заважыла і на тое, што ў іншых вокругах Г. Выбарны Камітэт не злажыў сваіх сьпіскаў.

Цяпер мы сталі перад дакананым ужо фактам злажэньня сьпіскаў кандыдатаў у вышэйпададзеных вокругах, дзе мусім згуртаваць каля сябе ўсё нацыянальна-сьвядомае беларускае грамадзянства, якое запраўды імкнецца да нашага нацыянальнага і палітычнага адраджэньня. У сьпіскі кандыдатаў мы ўмясьцілі зусім новых людзей, якія яшчэ ня былі ў Сойме і якія заслужылі даверу ў беларускага народу сваёй грамадзкай працай.

Але для таго, каб правесьці іх у Сойм і Сэнат трэба палажыць яшчэ шмат высілкаў ня толькі Галоўнаму Выбарнаму Камітэту, але і самаму грамадзянству. Матэрыяльных сродкаў Камітэт ня мае ніякіх. Мы ня можам рассылаць сваіх інструктараў, як гэта робяць іншыя партыі.

Мы аграйічаны нават у самых неабходных сродках — як напрыклад на ўсялякія друкі, (на нумаркі, адозвы і г. д.). Дзеля ўсяго гэтага мы заклікаем актыўнае і сьвядомае грамадзянства, памагчы нам у выбарнай акцыі. Твараце на мясцох выбарные Камітэты, распаўсюджвайце нашую газэту—перапісвайце і раздавайце нумаркі нашае лісты, як тольні будзе вядомы яе №, зьбірайце грошы на выбарные расходы і перадавайце іх у свае выбарные камітэты. Мы ня можам нават гварантаваць, што своячасна даставім у выбарные абводы патрэбную колькасьць нумаркоў, як гэта заведзена было пры папярэдніх выбарах.

Ня гледзючы на вельмі цяжкі матэрыяльны стан, у якім знаходзіцца Гал. Выб. Камітэт, мы верым аднак у перамогу нашых сьпіскаў, бо верым у творчую ініцыятыву ўсяго сьвядомага беларускага грамадзянства, якое гуртуецца каля Беларускага Цэнтрасаюзу.

Старшыня **Ф. Акінчыц.**

За сэкратара **Ільяшэвіч.**

## Чаму не дайшло да стварэньня агульна беларускага выбарнага блёку.

У апошнім нумары „Крыніцы“ зусім аднабока і тэндэнцыйна высьветлена справа аб тых кроках, якія былі распачаты з боку Беларускага Цэнтрасаюзу ў мэтах стварэньня беларускага выбарнага блёку, дзеля чаго лічым патрэбным гэтую справу высьвятліць больш падрабязна.

Ініцыятыва стварэньня тагога блёку пахадзіла з боку „Цэнтрасаюзу“, які на I сэсіі сваёй Рады прыняў адпаведную пастанову і даручыў Выбарнаму Камітэту яе рэалізацыю.

У парадку выкананьня гэтай пастановы, Прадстаўнікі Выбарнага Камітэту Цэнтрасаюзу 28 верасьня г. г. зьвярнуліся да прадстаўніка Хадэцка-сельсаюзьніцкага Камітэту ў асобе п. Ярэміча з прапазыцыяй стварэньня пад час выбараў агульна беларускага выбарнага блёку. На гэтую прапазыцыю п. Ярэміч даў адказ, што не далей як 1 ці 2-га кастрычніка можна будзе распачаць перагаворы ў гэтай справе, а пакуль што ён, Ярэміч, не ўпаважнены ад сваяго К-ту на якія небудзь канкрэтныя крокі ў гэтым кірунку і перадасьць усю справу ў свой Камітэт на абгаварэньне.

Толькі 2 кастрычніка вечарам п. Ярэміч зьявіўся ў Выбарны Камітэт Цэнтрасаюзу і заявіў, што мае згоду на стварэньне выбарнага блёку і запрапанаваў распачаць перагаворы ў гэтай справе, якія і былі вызначаны на 3 кастрычніка.

У гэты дзень зыйшліся прадстаўнікі двух выбарных Камітэтаў — ад Цэнтрасаюзу Ф. Акінчыц і К. Крук, а ад Сельсаюзу і Хадэцыі Ф. Ярэміч і Пазьняк. На гэтым пасяджэньні п. Ярэміч адразу заявіў, што іх Выбарны Камітэт ужо стварыў блёк з Украінскімі партыямі і што нават ужо ўложаны дзяржаўны сьпісак Кандыдатаў у Сойм, а далей прадстаўнікі Цэнтрасаюзу даведаліся што сам п. Ярэміч на гэтым сьпіску пастаўлены як кандыдат. Бачучы, што перагаворы п. Ярэміча і K° пасунуліся з украінцамі так далека, што нават ужо пададзены сьпісак кандыдатаў у Сойм і што гэта ўсё тварылася паза плячыма Выбарнага К-ту Цэнтрасаюзу, які нічога аб гэтым ня ведаў і ня мог прыймаць ніякага ўдзелу ў стварэньні ўкраінска-беларускага блёку,—нашы прадстаўнікі заявілі, што яны перададуць гэтую справу на абгаварэньне Выбарнага К-ту ў поўным складзе.

Выбарны К-т разглядзеў гэтую справу і вынес пастанову, якую мы і друкуем ніжэй — каб усё беларускае грамадзянства ведала ў чым тут справа і хто фактычна вінаваты ў зрыве агульна беларускага блёку. Цяпер „Крыніца“, каб затушаваць усю гэтую справу пусьцілася на „шырокія воды“ дэмагогіі, і льець кракадылявы сьлёзы аб лёсе ўкраінскага народу, з якім „палёнофільскі“ Цэнтрасаюз не хацеў быццам іосьці супольным фронтам на выбары.

Справа, аднак, у тым, што Цэнтрасаюз запрапанаваў панам Ярэмічу і K° зьліквідаваць умову з украінцамі не дзеля таго, што Цэнтрасаюз быў проціў блёку з украінцамі, а толькі таму, што сельсаюз і хадэцыя заключылі гэтую ўмову паміма Цэнтрасаюзу і пры гэтым апрацавалі ўсю справу так спрытна, што напр. п. Ярэміч аказаўся на дзяржаўным украінска - беларускім сьпіску.

Цэнтрасаюз паставіў пры распачацьці перагавораў адзін вельмі няпрыемны для паноў з Сельсаюзу варунак—а іменна—каб сьпіскі кандыдатаў у наступны Сойм былі састаўлены з зусім новых людзей і гэтакім чынам, каб фактычна дайшло да агульна-беларускага паразуменьня — ні п. Ярэміч, ні Багдановіч, п. Каруза, ня іншыя нашы „выпрабаваныя парлямэнтары“ не апыніліся-б ў Сойме, а займаліся-б тэю працаю, да якой маюць больш здольнасьцяў, чым да пасланьня.

І вось гэтая старая кампанія, якая пасланьне ў Сойме перарабіла ў сваяго роду прафэсію, і прызвычаілася нічога не рабіць для беларускай справы, а толькі атрымоўваць пасольскія дыэты з польскага скарбу, каб пралезьці ў Сойм за якую бы то ні было цану, — пасьпяшыла заключыць блёк з украінцамі, асьвяціўшы ім справу так, што быццам апрача сельсаюзу і хадэцыі на Зах. Беларусі няма нічога заслугоўваючага на ўвагу.

Зрабіўшы гэты „фортэль“ ім нічога больш не застаецца цяпер, як толькі бавіцца ў дэмагогію і пяяць хвалебныя гімны ўкраінскаму народу, які відаць, дзякуючы толькі сваёй неасьведамлёнасьці ў нашых палітычных варунках, узяўся правесьці ў Сойм добрага нашага знаемага пана Ярэміча.

Вось гэта ўсё і было прычынаю таго, што ў сучасных выбарах у Сойм няма агульна-беларускага блёку...

## Поўны тэкст пісьма, якое было передана Хадэцка Сельсаюзьніцкаму Выбарнаму Камітэту.

**Да Беларускай Выбарнай Камісіі**
**Вільня, Людвісарская № 1.**

Прыймаючы пад увагу, што: 1. заключэньне выбарнага блёку паміж Беларускай Выбарнай Камісіяй і ўкраінскімі партыямі, аб чым Выбарны Камітэт Беларускага Цэнтральнага Саюзу даведаўся толькі 3 кастрычніка бг. падчас спатканьня прадстаўнікоў гэтага Камітэту гр. гр. Ф. Акінчыца і К. Крука з прадстаўнікамі Бел. Выб. Камісіі гр. гр. Ф. Ярэмічам і Я. Пазьняком,—ставіць Выб. Камітэт Бел. Цэнтрасаюзу перад дакананым ужо фактам,

2. што Выб. Камітэт Бел. Цэнтрасаюзу дзякуючы таму, што Бел. Выб. Камісія павяла перагаворы з украінскімі партыямі самастойна быў пазбаўлены магчымасьці браць удзел у перагаворах пры заключэньні гэтага блёку,

3. што, як закамунікавалі 3 кастрычніка прадстаўнікі Бел. Выб. Камісіі ў асобах гр. гр. Ф. Ярэміча і Пазьняка—ўтвораным бел.-украінскім блёкам ужо нават пададзены дзяржаўны сьпісак кандыдатаў, які быў уложаны бяз нашага ўдзелу,

4. што варункі, на якіх утвораны блёк нам няведамы,

5. што дзяржаўны сьпісак ня мог быць пададзены, бо падаецца толькі 7 кастрычніка.

6. што нарэшце сам факт заключэньня блёку Бел. Выб. Камісіяю з Украінцамі і ўлажэньне сьпіску кандыдатаў на дзяржаўную лісту гэтым блёкам у той час, калі ня былі яшчэ закончаны перагаворы прадстаўнікоў Выб. Камітэту Цэнтрасаюзу з прадстаўнікамі Бел. Выб. Камісіі і гэтыя перагаворы працягаваліся не па нашай віне, вытварае такое палажэньне, пры якім мы ня можам аказаць свайго ўплыву як на падставы няведамых нам і цяпер умоваў, на якіх пабудаваны бел.-укр. блёк, так і на падбор кандыдатаў у Сойм і Сэнат пастанавілі:

Запрапанаваць Беларускай Выбарнай Камісіі прыступіць да ўтварэньня агульна-беларускага выбарчага блёку, зьліквідаваўшы тую ўмову, якая заключана Беларускай Выбарчай Камісіяй з Украінскімі Палітычнымі Партыямі і даць нам адказ на гэтую прапазыцыю ў працягу 24 гадзін.

Неатрыманьне адказу да 4 гадзіны 5 кастрычніка 1930 г. будзем лічыць за зрыў адзінага беларускага выбарчага фронту.

За Урад Галоўнага Выбарнага Камітэту Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Прасьветных і Гаспадарскіх Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

Старшыня: **Ф. Акінчыц.** Сэкратар: **К. Крук.**

4 кастрычніка 1930 г.

## Нашы кандыдаты у Сойм і Сэнат.

14 кастрычніка г. г. „Беларускі Цэнтрасаюз“ злажыў сьпісак кандыдатаў у Сойм і Сэнат з наступных асобаў.

### Кандыдаты па Навградзкаму вокругу.

1. **Міхась Міцкевіч** 33 год, селянін, родам з вёскі Мікалаеўшчыны, Сьвержанскае гміны, Стаўпецкага павету, адкуль выйшла цэлая пляяда беларускіх грамадзкіх дзеячоў і дзе між іншым радзіўся наш нацыянальны паэт Якуб Колас, родным братам якога зьяўляецца наш кандыдат Міхась Міцкевіч. У часы існаваньня Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады Міхась Міцкевіч бярэць актыўны ўдзел у яе працы на становішчы віцэ-старшыні павятовага Камітэту.

У апошнія часы ён бязупынна займаецца грамадзкаю працаю, бароначы інтарэсы працоўнага беларускага сялянства.

2. **Мікалай Логаш** 32 год, селянін з Навградзкага павету, Гарадэчанскай гміны (хутар Кміцянка), сябра Бацькаўскага Камітэту Навградзкай Беларускай гімназіі — былы сябра Беларускай Грамады.

3. **Рыгор Якубёнак** 44 год, дырэктар Клецкай Белар. Гімназіі, вядомы беларускі дзеяч, патраціўшы шмат энэргіі на арганізацыю і ўпарадкаваньне Клецкай Гімназіі, якою і кіруе да апошніх часоў.

**Кожная газэта можа рэгулярна выходзіць толькі тады, калі падпісчыкі акуратна высылаюць падпісную плату.**

**Не забывайце гэтага і пасьпяшыце выканаць свой грамадзкі абавязак.**

4. **Язэп Ярашэвіч** 35 год, селянін з Новага Сьвержаня, Стаўпецкага павету.

5. **Міхась Фурсэвіч** 35 год, селянін з Нясьвіжскага павету, вёска Перакопаўшчына, гміна Гавэзна.

6. **Кузьма Крук** 35 год—коопэратар.

### Нашы кандыдаты па Сьвянцянскім вокругу

1. **Кузьма Крук** — коопэратар, радны места Вільні, мае 35 г., радзіўся ў вёсцы Маьсьцішча, Мікалаеўскай вол. Дзісьненскага пав. шмат палажыў заслугі па арганізацыі беларускай коопэрацыі, адзін з актыўных сяброў бышай Грамады.

2. **Антон Войцік** радзіўся ў 1898 г. у беднай сялянскай сям'і, у вёсцы Вяржках, Парафіянаўскай вол., Дзісьненскага пав., 15 гадовым хлапцом дзеля куска хлеба змушаны быў пакінуць бацькаўшчыну і выехаць у Данецкі басэйн, дзе, як просты рабочы спачатку працаваў на доменных печах, а пасьля качагарам на вадакачцы. У 1914 г. уступае ў Р. С.-Д. Рабочую Партыю і працуе ў ёй аж да выбараў у „Учредительное Собраніе. У пачатку 1919 г. ён варочаецца на бацькаўшчыну і тут цалком аддаецца працы на беларускай ніве. У 1924 г., як рэдактар-выдавец газэты „Сялянскай Праўды", выходзячай у Вільні, на Віленскай вул. 12—6, быў арыштаваны і пасаджаны на „Лукішкі", дзе прасядзеў каля паўтара году. Пасьля выхаду з вастрогу Войцік працуе ў рэдакцыі радыкальных газэтаў аж да красавіка с. г. За ўвесь час свае палітычнай і грамадзкай працы кандыдат шмат прасядзеў у вастрогах: „Самарскі Цэнтрал", „Бутыркі", „Крэмль" і інш.

3. **Кароль Сымон** 42 г. вучыцель беларускай народнай школы ў Вільні, былы вучыцель і сэкрэтар Белар. Радашкоўскай Гімназіі.

4. **Грышкевіч Вінцук**, сын беднага селяніна з мястэчка Будслаў, Вялейскага пав., вучыцель Віленскай Беларускай Гімназіі, былы грамадавец.

5. **Забельскі Янка**—земляроб з вёскі Караблі, Гарадзецкай вол., Маладэчанскага пав., сябра б. Грамады.

### Па Лідзкім вокругу.

1. **Кароль Сымон** — вучыцель беларускай народнай школы ў Вільні, стары дзеяч на ніве беларускага адраджэньня.

2. **Антановіч Аляксандар** — земляроб з вёскі Княгініна, Крывіцкае воласьці, Вялейскага пав., адзін з вельмі актыўных сяброў б. „Грамады".

3. **Забельскі Янка**—земляроб з вёскі Караблі, Гарадзецкай вол., Маладэчанскага пав. былы грамадавец, радны Гарадзецкага самаўраду, атрымаў сярэднюю адукацыю.

4. **Грышкевіч Вінцук**—сын беднага земляроба з мястэчка Будслаў, Вялейскага пав., вучыцель Віленскай Беларускай Гімназіі, яшчэ будучы вучням Віленскай Бел. Гімназіі працуе дзеля адраджэньня свайго народу; былы грамадавец.

### Кандыдаты ў Сэнат.

1. **Павал Арцішэўскі**, 60 г., судовы абаронца—стары грамадзкі дзеяч.

2. **Александр Міхалевіч**, 48 г., дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі.

Кандыдатуры грам. Арцішэўскага і Міхалевіча выстаўлены ў двух ваяводзтвах — Навagradзкім і Віленскім, пры гэтым у Віленскім ваяводзтве Міхалевіч стаіць на 1 мейсцы, а ў Навaградзкім на гэтым мейсцы стаіць гр. Арцішэўскі.

# Прадвыбарная хроніка.

### Непаразуменьне сярод беларускай хадэцыі.

Трудна сказаць, што фактычна робіцца ў іншых беларускіх групах у зьвязку з выбарамі ў Сойм, бо белар. газэты выходзяць вельмі рэдка і наагул ня зусім точна высьвятляюць справы. Прыходзіцца дзеля гэта скарыстацца пагалоскамі і весткамі, падаванымі праз польскую прэсу.

Так напр. „Kurjer Wil." (ад 12-XI г. г.) паведамляе, што ў зьвязку з складаньнем акружных сьпіскаў, сярод беларускіх Хадэкаў дайшло да паважных непаразуменьняў. Справа ў тым, што Хадэцыя, скампрамітаваная поўнасьцю праз сваіх папярэдніх паслоў, якія нічога не рабілі для беларускай справы, жывучы выключна для сябе, пастанавіла пазбыцца старых паслоў. У зьвязку з гэтым выступіў з белар. Хадэцыі былы пасол Стэповіч, які чуваць, разам з б. паслом Юхневічам выстаўляе ў Сьвянцянскім вокрузе свой асобны сьпісак.

### „Сфальшаваныя" подпісы на дзяржаўных сьпісках.

Як падаюць польскія газэты, на дзяржаўных сьпісках украінскага „Сельробу" ў Сойм сфальшавана 237 подпісаў, а да Сэнату—399.

Также дзяржаўная выбарная камісія заўважыла на дзяржаўным сьпіску „Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу „Змаганьня" на 1274 подпісы, 277 подпісаў „сфальшаванымі". У зьвязку з гэтым сьпісак скасаваны.

### Адзінны выбарны фронт жыдоў у Вільні.

Апошнімі днямі, пасьля доўгіх перагавораў, палітычныя і гаспадарскія згуртаваньні жыдоў у Вільні пастанавілі iсьці да выбараў у Сойм і Сэнат адным выбарным фронтам. На першым мейсцы соймавага сьпіску будзе кандыдаваць б. пасол др. Я. Выгодзкі, а ў сэнат—б. сэнатар др. Ц. Шабад.

### Трашчыць „Вызваленьне".

Пасьля развалу „Страніцтва Хлопскага", галоўныя павадыры якога пасьля сваёй крыклівай „апазіцыі" перайшлі да „Бэзпартыйнага Блёку". Прыйшоў чарод і на сястрыцу „Стр. Хлопскага"—„Вызваленьне". Іменна ў Лідзкім вокрузе кандыдат з „Вызваленьня" Балашэўскі выступіў з „Вызваленьня" і адмовіўся кандыдаваць.

### Беларускія выбарныя сьпіскі.

Беларускія сельсаюзьнікі і хадэкі ідуць на выбары ў некалькіх вокругах, пры гэтым, як відаць, перасварыліся—і нават самі ня ідуць супольным „фронтам". Па Сьвянцянскаму вокругу Альбін Стэповіч арганізаваў нейкую групу „незалежных радыкалаў" і ідзе асобна ад г. зв. Украінска-Беларускага Блёку, на чале якога па гэтаму-ж вокругу стаіць Адольф Клімовіч.

Па Лідзкаму вокругу ад Укр.-Бел. Блёку ідзе Ярэміч і яшчэ нейкая Бліхорская, якая стаіць на чале нейкай спэкуляцыйна-выбарнай групы.

Па Наваградзкаму вокругу — па соймаваму сьпіску—Рагуля, а па сэнацкаму—Багдановіч, які ідзе па сэнацкаму сьпіску і ў Віленскім ваяводзтве. Аб іншых вокругах—вестак ня маем.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Арышты сярод П. П. С.

У Варшаве адбыліся арышты сяброў ППС, якія, паводле польскае прэсы, прыгатаўлялі замах на Маршалка Пілсудскага.

Паводле вестак варшаўскіх газэт замах гэты прыгатаўлялі пяць найактыўнейшых сяброў ППС, гэтак званай сацыялістычнай міліцыі на чале з Ягадзінскім, які ўкрываў ад сваіх таварышаў, на каго мае быць зарганізаваны замах.

Замах павінен быў адбыцца 10 кастрычніка ў часе павароту маршалка Пілсудскага ў Бэльвэдэр пасьля паседжаньня ў прэзыдыўме Рады міністраў. Дзеля таго, што марш. Пілсудскі доўга не пакідаў памешканьня Рады Міністраў, Ягадзінскі рашыў кінуць у яго бомбу на другі дзень, у суботу. Тым часам аб прыгатаваньні замаху даведалася паліцыя і арыштавала ўсіх замахоўцаў.

Сьледзтва выясьніла, што Ягадзінскі браў на сябе ролю выкананьня замаху, а яго сябры Трахімовіч, Бялкоўскі, Бужыцкі і Хрусьцінскі павінны былі аказваць яму „тэхнічную помач". Усе яны павінны былі прыкрываць дарогу для ўцечкі Ягадзінскага. Аднак, Хрусьцінскі заявіў, што ён адмаўляецца прыймаць удзел у замаху, мотывуючы сваёй старасьцяй (мае каля 70 гадоў). Ня гледзячы на гэта, на трэцьцім паседжаньні замахоўцаў, было пастаноўлена выканаць замах на марш. Пілсудскага ў Уяздоўскіх Алеях, каля брамы дому 35 з двара якога быў вольны праход на наступную вуліцу—Вейскую. Каб у выпадку, калі-б у часе наступіўшай перастрэлкі, Ягадзінскі аказаўся-б раненым, дык яго „тэхнічныя памоцнікі" павінны былі ўцягнуць ў самаход і разам з ім уцячы.

Арыштаваныя ад пастаўленых ім закідаў катэгарычна адмаўляюцца.

## Заграніцай.

### Рэвалюцыя ў Бразыліі.

Ужо другі тыдзень, як газэты прыносяць весткі аб выбуху рэвалюцыі ў Бразыліі. Спачатку газэты глуха пісалі аб прычынах гэтай рэвалюцыі, якая выбухла быццам з-за кавы. Пісалася, што добра арганізаваныя аддзелы паўстанцаў б'юць урадавае войска і хутка пасуваюцца наперад, беручы ў дзень па некалькі местаў. Апошнія весткі падрабязна падаюць прычыны паўстаньня.

Выбухла яно дзякуючы ўзросту безрабоцьця. Як ведама, Бразылія найбольш прадукавала каву, якую вывазіла амаль да ўсіх краёў сьвету, атрымліваючы за гэта вялізныя зыскі. Дзякуючы эканамічнаму крызісу ў Эўропе і ў некаторых іншых краёх, вываз кавы з Бразыліі значна зьменшыўся. Уласьнікі плянтацыяў кавы пачалі звальняць работнікаў з працы і зьмяншаць колькасьць плянтацыяў. Безработныя, ня могучы знайсьці іншай працы зарганізавалі паўстаньне. Дабылі зброю і рушылі з усіх бакоў на сталіцу Бразыліі—Рыо-дэ-Жанэйро, здабываючы па дарозе найважнейшыя месты, як Сан-Паулё, Бэлё-Горызонтэ, Брагія і інш. Урадавае войска і флёт масава пераходзяць на бок паўстанцаў. Рашучая перамога паўстанцаў сьхіляе шалю паўстаньня на іх карысьць.

Барыс Грамацкі.

# Да чаго мы дажыліся?

**Першая газэта на Беларусі. Сонечныя надзеі на будычыню. Адраджэньне Беларусі ішло шпаркім крокам. Рэвалюцыя 1917 г. і абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі. „Беларуск. Сялянска-Работн. Грамада. Хуткае разьвіцьцё і ўпадак беларуск. руху. Да чаго мы дажыліся? Дык куды-ж ісьці?**

1906 год. Невялічкая жменька людзей пачынала **Вялікую Справу**. Натхнёная Рэвалюцыяй 1905 году, аб'яднаная ідэяй і моцнай верай у сваю справу, гэта невялічкая жменька людзей праводзіла ў жыцьцё „шалёную" думку. Ды і запраўды, ці-ж можна было ў той час, „разважна" думаючы, спадзявацца, што выпускам у сьвет першае беларускае газэты „Нашае Долі" будзе паложаны першы трывалы фундамэнт пад беларускую прэсу, пісьменнасьць, культуру і Адраджэньне Беларусі наагул. Пачынальнікамі гэтай Вялікай справы былі тагды браты Луцкевічы, а супрацоўнікаў мелі ў той час гэтулькі, што на пальцах аднэй рукі можна было пералічыць.

Першая газэта на Беларусі!

Хто-ж мог ведаць тагды, які яе чакае лёс: ці будзе яна ў шырокіх масах карыстацца пасьпехам і ці будзе яна мець столькі чытачоў і падпішчыкаў, каб аплаціць самую сябе? Аднак закладчыкі „Нашай Долі" ня спужаліся гэтага пытаньня, адстрашваючага большасьць выдаўцоў. „Наша Доля" зьявілася ў сьвет і то ў вялікай, як на пачатак, колькасьці экзэмпляраў, бо аж 10.000 экз. Чытачы і падпішчыкі знайшліся адразу. Першы нумар ня то-што раскупілі, а расхапілі ў два дні, плацячы ўдвое—трое даражэй за нумар. Царская ўлада, відаць, не на жарт перапалохалася такога пасьпеху беларускай газэты, бо пачала з ёй бязьлітасную барацьбу. Як ведама, з шасьці выйшаўшых нумароў „Н. Долі" пяць нумароў былі канфіскаваны, а на № 6 яна зусім зачынілася.

Пасьля „Нашай Долі" ў тым самы 1906 годзе выйшла новая беларуск. газэта „Наша Ніва", выдаваная той самай невялікай жменькай людзей. „Нашай Ніве" пашчасьціла аднак перартрываць найцяжэйшыя часы царскай рэакцыі. „Н. Ніва" з кожным годам ўсё больш і больш разьвівалася, лік супрацоўнікаў хутка ўзрастаў. У ёй пачалі сваю працу найвялікшыя нашы песьняры, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Зьмітрок Бядуля, Алесь Гарун, Цішка Гартны, Канстанцыя Буйло і шмат другіх.

Закладчыкі „Нашай Нівы" былі гордыя сваёй работай. Яны з радаснай надзеяй глядзелі на будучыню свайго дзіцяці. Ня раз сэрца іх цешылася, бачучы, што „Н. Ніва" здабывае ў сьвеце штораз большае і большае месца, што яе праменьні заглядаюць у найцямнейшую глуш Беларусі. Закладчыкі, а таксама і чытачы „Нашай Нівы" моцна верылі тагды, што кожны новы год прыносіць ім новы пасьпех, новую перамогу над цемрай, над несьвядомасьцяй, над аспаласьцяй сялянскіх масаў. Думалі тагды, што за дзесяць—дваццаць гадоў Беларускі Народ здолее паставіць сваю прэсу так, як у іншых культурных народаў. Верылі, што будзем мець тут, у Вільні свае ўласныя сталыя штодзенныя газэты і шмат розных месячнікаў, тыднявікоў і т. п. Верылі, што сярод беларускіх сялянска-работніцкіх масаў і інтэлігенцыі дасьпее зразуменьне важнасьці і неабходнасьці беларускага друкаванага слова, што ніхто іншы, як Беларускі Народ з свайго ўласнага крывавага мазаля будзе ўтрымліваць сваю родную прэсу.

Тая невялічкая жменька самаахфярных людзей не агранічвалася выдаваньнем толькі „Нашай Нівы". З кожным годам усё больш і больш выдавалася новых беларускіх кніжак; зьявіліся беларускія лемантары, школьныя падручнікі, гаспадарскія і коопэратыўныя кніжкі і часопісі, тэатральныя творы і гэт. далей. Вядомыя з сваёй славы Беларускія Калеңдары—выданьня „Н. Нівы" былі настолькі цікавыя і багатыя па свайму зьместу і так дапасаваны да патрэбаў вёскі, што былі адзначаны срэбным мэдалем на с.-гаспадарскай выстаўцы ў Вільні. Арганізаваўся ў той час першы Беларускі Тэатр і беларускі нацыянальны балет. Беларусь адраджалася шпаркім крокам, а будзіла Яе са сну тагды, ўсё тая-ж **невялічкая жменька людзей!**

Пачалася няшчасная сусьветная вайна, якая расьцярушыла невялічкія ў той час беларускія культурныя сілы па ўсяму сьвету. Але праца ня спынілася! Нават у найцяжэйшыя, найгаладнейшыя гады нямецкай акупацыі на Беларусі знайшлася магчымасьць выдаваць сваю ўласную газэту (двойчы ў тыдзень) „Гоман" і шмат новых школьных падручнікаў, у той час стварыліся ў

### Новы праэкт абмежаваньня эміграцыі да Злучаных Штатаў.

У сувязі з усёўзрастаючым безрабоцьцем ў Злучаных Штатах, амэрыканскія ўлады ў 1925 г. ўвялі так званую „квоту“, згодна якой лік жадаючых выэміграваць дзеля працы ў Пaўноч. Амэрыку быў вельмі абмежаваны. Цяпер улады праэктуюць выдаць новы загад, які яшчэ больш абмежоўвае эміграцыю да Амэрыкі, на моцы якога будуць дапушчацца на выезд дзеля працы толькі тыя кваліфікаваныя работнікі, якія ў Амэрыцы ў той час будуць патрэбны.

### Нячуваны крах на гелдзе ў Н.-Ерку.

У мінулы панядзелак Нью-Ёрская гелда перажывала чорны дзень. З прычыны дзікіх транзакцыяў з цэннымі паперамі, курс іх абнізіўся значна. Дзякуючы гэтаму, гандлёвыя фірмы панясьлі вялізарныя страты, дасягаючыя да міліярда даляраў.

### Узнаўленьне барацьбы ў Індыі.

З Калькуты даносяць, што выпушчаны на вольнасьць правадыр індыйскіх нацыяналістаў Нэгру на вялікім мітынгу заявіў, што ў сучасным моманце пачынаецца другая частка барацьбы з ангельскім панаваньнем у Індыі.

Мэтаю гэтай барацьбы зьяўляецца стварэньне вольнай Індыі. Індусы павінны адмаўляцца плаціць падаткі англічанам і з падвойнай энэргіяй стасаваць іншыя сродкі, як байкот ангельскіх тавараў і т. п., каб прысьпяшыць момант аканчальнага вызваленьня Індыі.

### Манэўры на Украіне.

У канцы верасьня г. г. закончыліся вялікія восеньскія манэўры чырвонай арміі на Украіне. У гэтых манэўрах, апрача пяхоты і коньніцы, прыймалі ўдзел спэцыяльныя маторныя аддзелы, эскадры аэрапланаў і вайсковыя работніцкія аддзелы. У часе паходу працавалі спэцыяльныя прэсавыя бюры, выпускаючы газеты і адозвы. У працах тых бюраў бралі ўдзел групы радавых пісьменьнікаў і літаратаў.

Дык як бачым, бальшавікі маюць змагацца з ворагамі ня толькі зброяй, але і адозвамі і газэтамі.

## Апошні нумар „Студэнцкай Думкі“.

Выйшаў № 2-13 „Студэнцкай Думкі“ і, як запавядае рэдакцыя, мае выходзіць штомесячна.

Матэрыял у гэтым № падабраны вельмі добра і наагул зьмест яго цікавы і самае галоўнае актуальны.

Заслугоўвае на ўвагу, акрамя вершаў Бартуля і Тулейкі, стацьця М. Шкялёнка пад тытулам „Проба аналізы народнае гаспадаркі Беларусі з пункту гледжаньня яе эканамічнае самавыстарчальнасьці“. Стацьця гэта не закончана і крытычны разгляд яе дамо тады, калі яна выйдзе з друку ў сваім закончаным відзе.

Вельмі цікава і здольна напісаны студ. М. Тулейкаю „Рэфлексы“, дзе ён тлумачыць тыя прычыны, дзеля якіх Беларускі Студэнскі Саюз не ўвайшоў сябрам у Нацыянальны Камітэт. „Дзіўная рэфлексыя“ — кажа Тулейка: — „Чаму ўсё-ж такі студэнства не захацела ўвайсьці ў Беларускі Нацыянальны Камітэт? Трэба было быць на сходзе, трэба было бачыць, як цяжка падыймаліся рукі проціў уваходу, але нешта іх цягнула ўвёрх, нешта ім казала так рабіць, — о, гэта нешта, была інстынктыўная сьвядомасьць, балючая і прыкрая, якая казала: у нас няма свайго нацыянальнага камітэту, няма такога, які ён павінен быць“.

„Беларускае студэнства паступіла зусім правідлова, не ўвайшоўшы ў гэтую мёртвую арганізацыю, якая носіць гучны назоў „Нацыянальнага Камітэту“.

У нас фактычна няма ніякага нацыянальнага камітэту, а тое, што носіць гэты назоў, зьяўляецца нічым іншым як крамкай для лоўлі пасольскіх мандатаў — і толькі. Ніякай працы, якая-б мела агульна-нацыянальны характэр, ён ня вядзець і ажываець толькі тады, калі пачынаець „пахнуць жареным“, гэта знача пасольскім мандатам. Нарэшце і беларускасьць гэтага „нацыянальнага“ камітэту пад вялікім знакам запытаньня, — паскольки на чале яго стаіць „истинно-русскій“ чалавек.

Добра зрабілі беларусы-студэнты, што не ўвайшлі туды і добра зрабіў Тулейка, вытлумачыўшы ў „Студэнскай Думцы“ для шырокіх колаў беларускага грамадзянства прычыны гэтага неўваходу.—

Цікавае пытаньне парушае нехта, скрыўшысь пад псэўдонімам „Міт“ і напісаўшы артыкул пра Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча.

Гаворыцца ў ім пра тое, каб нашае жыхарства навучылася шанаваць старыну і тыя прадметы, якія зьвязаны з ёю і з гісторыяй нашай бацькаўшчыны.

У гэтым кірунку даўно трэба было павесьці прапаганду сярод нашага грамадзянства, каб яно балей рупілася пра свой нацыянальны Музэй.

Магчыма, што цяпер, у зьвязку з арганізацыяю Беларускага Цэнтрасаюзу, можна будзе арганізаваць некалькі краязнаўчых гурткоў, ці таварыстваў, якія-б спэцыяльна заняліся справамі вывучэньня нашай бацькаўшчыны ў яе сучасным стане і гістарычным разьвіцьці. І вось тады можна было-б супольнымі сіламі заняцца тою неабходнаю і цікаваю справаю, пра якую гаворыцца ў „Студэнскай Думцы“.

З вонкавага боку „Студэнская Думка“ мае вельмі добры выгляд і надрукавана на 40 стар.

Канчаючы гэты кароткі агляд трэба яшчэ раз зазначыць, што нумар гэты вельмі ўдалы і астаецца толькі пажадаць, каб у нашага студэнства хапіла энэргіі і надалей працаваць у гэтым кірунку.

M. Машара.

## Места.

Зноў я далёка ад вёскі,
У сэрцы імгліць непакой.
Рытмам мястовым расплёскаў
Дум маіх ціхі настрой.

Места... шырокія вулкі.
Вечар... адзін у таўпе,
Шум не выразны і гулкі
Рух праслаўляе, пяе.

Сьветла... электрыка з‘яе
У шыбах люстранага шкла.
Людзі, як лялькі мільгаюць
Гладкай сьцягой хадніка.

Слухаю песьню сырэны,
Грае—раве аўтабус.
Места! то зьмест твой штодзенны
Поўны красы і спакус.
— — — — — — — — — —

Далі, другое ёсьць места,
Там дзе дымяць камяны.
Вуліцы брудны і цесны,—
Працы жывуць тут сыны.

Твар дзе спаткаеш—на твары
Вечных клапотаў пячаць
Места—варштат і кашара.
Людзі—працоўная рацъ.

Саколка 10. IX. 30.

## Сьвяткаваньне 10 угодкаў заснаваньня Беларускага Студэнскага Саюзу у Вільні.

Гэтым падаецца да ведама, што 23 лістапада б. г. адбудзецца ўрачыстае сьвяткаваньне 10 угодкаў заснаваньня Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні. У праграму сьвяткаваньня ўвойдзе: 1. Урачыстая Акадэмія і 2. Канцэрт-Баль. Такжа выйдзе юбілейны нумар „Студэнскае Думкі“, пасьвячаны Сьвяткаваньню.

Запросіны на Сьвяткаваньне, апрача Вільні, будуць рассылацца і ў іншыя мейсцы, а так-жа на правінцыю. Дзеля гэтага прыездным на Сьвяткаваньне з правінцыі будзе забясьпечана бясплатнае памяшчэньне на працяг 2 дзён. Па запросіны на Сьвяткаваньне просім зьвяртаца па адрасу: **Беларускі Студэнскі Саюз, Вільня, Віленская 8—3, ад 5—7 гадз. вечара што дня.**

Асабліва зьвяртаемся да ўсей Беларускай Студэнскай Моладзі незалежна ад таго, дзе яна знаходзіцца, а так-жа да ўсіх тых, якія маюць ці мелі нешта супольнае з беларускім студэнствам і наагул усё наша грамадзянства—прыняць удзел у гэтым вялікім для нас Сьвяце.

Адначасна зьвяртаемся да беларускага грамадзянства ў Вільні з просьбаю, калі хто можа, прыняць падчас сьвяткаваньня да сябе на памяшчэньне прыезджых на Сьвяткаваньне гасьцей і ў выпадку згоды, павядаміць нас аб гэтым.

Заклікаем таксама ўсё беларускае студэнства ў Вільні прыняць актыўны ўдзел у арганізацыі сьвяткаваньня.

Падробнасьці сьвяткаваньня будуць нададзены ў сваім часе.

**Камітэт Сьвяткаваньня**
Вільня, Віленская 8—3.

## Хроніка.

× **„Новая эра“ ў Стоўпцах.** Наскольки стаўпецкая паліцыя „спраўна“ выконвае свае абавязкі сьведчыць наступны факт, ілюструючы між іншым „новую эру“ ў адносінах да беларусаў.

14 кастрычніка г. г. гр. Ф. Акінчыц узяўшы білет да Вільні чакаў на стаўпецкім вагзале цягніка.

Падыходзіць паліцыянт і „grzecznie“ запрашае гр. Акінчыца на пастарунак з усімі рэчамі.

Там нейкі пшадоўнік загадаў адчыніць чамаданы і пачаў рабіць вобыск. На запытаньне чаго фактычна шукаюць—і чаму гэта затрымоўваюць без усякіх прычын падарожнага—пшадоўнік адказаў, што паліцыя атрымала інфармацыю быццам гр. Ф. Акінчыц развозіць „бібулу“ „Змаганьня“.

Ніякай „бібулы“ ня было знойдзена, а пазасталося толькі ў тых грамадзян, якія бачылі затрыманьне Ф. Акінчыца на станцыі і беспадстаўны вобыск, такое ўражэньне — як яшчэ далёка да нармальных адносінаў з беларусамі, якія павінны панаваць у прававаў дзяржаве. Як відаць з усяго стаўпецкая паліцыя хацела ада-

Вільні Беларускія Вучыцельскія Курсы і паўстала каля 200 беларускіх пачатковых школаў на ўсім абшары Зах. Беларусі.

Рэвалюцыя 1917 году, здавалася, шырака адчыніла вастрожныя дзьверы „турмы народаў“. Беларускі Народ актам 25 сакавіка 1918 г. заявіў усяму сьвету сваю рашучую магутную волю, абвяшчаючы **Незалежнасьць Беларусі.** Далейшыя падзеі добра ўсім ведамы. 1921 год падзяліў Беларусь, адрываючы ад нас найбольшую, найкрапчэйшую частку жывога цела—Усходнюю Беларусь.

Застаўшыся ў Заходняй Беларусі мы адразу папалі ў эндэцка-пэпэесаўскія жорны; нас зусім хацелі змалоць на муку, каб нават і сьледу па нас не засталося. Нас—як народ, як нацыю, замянілі ў нейкія „Крэсы Всходне“. Усе нашы культурныя дасягненьні касаваліся адным загадам, а адначасна польскімі нацыяналістамі выдумляліся для нас вядомыя „ўставы ендыковэ“, на якіх сам чорт язык можа зламаць. Але ў Беларускім Народзе знайшлося столькі самароднай адпорнай сілы, што, чым больш нас ціснулі, тым больш мы адбіваліся зарганізаванай сілай. Культурна-ўсьведамляючая праца пераступала праз найцяжэйшыя перашкоды і ня спынялася ні на крок. У 1922 годзе, ня гледзячы на шалёную кампанію проці ўсяго беларускага, Заходняя Беларусь здолела выслаць дванаццаць сваіх прадстаўнікоў у польскі Сойм і двох у Сэнат. Хіба ўсе беларусы памятаюць, ды яшчэ доўга будуць памятаць, як эндэцкая прэса таго часу аж шалела з роспачы, што „хамы—беларусы ў лапцях пойдуць у Сойм і запаскудзяць яго“.

Калі хоць на момант кінуць вокам на тую няўпынную працу, на тыя вялізарныя высілкі, якія рабіў беларускі народ і яго дзеячы ў той час, то ніяк ня можна надзівіцца, скуль бедная, цёмная, загнаная маса магла здабыцца на столькі сілы, волі, еднасьці і практычнага розуму. Вось маленькая жменька фактаў з падзеяў таго часу. У Вільні істнавалі адначасна дзьве паважныя беларускія часопісі „Змаганьне“ і „Беларускія Ведамасьці“, якія выходзілі стала два—тры разы ў тыдзень. Апрача Віленскай Беларуск. Гімназіі закладаліся Белар. Гімназіі ў Наваградку, Радашкавічах і Клецку, а ў Барунах закладалася Белар. Вучыцельская Сэмінарыя. У Вільні быў багата абстаўлены Беларускі Клюб, а таксама сталы і вандроўны Тэатр; спэктаклі ставіліся амаль што тыдзень. Беларускае Выдавецкае Т-ва з немалым гонарам кожны год магло пахваліцца лічнымі новымі выданьнямі кніжак. Нават прыватныя выдаўцы бачылі ў Заходн. Беларусі добры кніжны рынак, а таму не шкадавалі значных сродкаў на выданьне беларускіх кніжак.

Такім чынам выдавецтва Б. Клецкіна, пакладаючы ня мала коштаў, выдала шмат вельмі вартасных для беларусаў кніжак. У гэтым часе быў выданы першы беларускі адрыўны календар, які з тэй пары стала выходзіць у Вільні, прыносячы Былар. Выдав. Т-ву нямалую матэр‘яльную карысьць. У тым самым часе паўстаў у Вільні першы Беларускі Коопэратыўны Банк з двума філіямі ў Глыбокім і ў Пінску. У тым самым часе беларускі народ, недачакаўшыся адчыненьня ўрадавых беларускіх школаў, па сваёй уласнай ініцыятыве пачаў закладваць прыватныя пачатковыя школы, а таксама, масава падаючы школьныя дэклярацыі, выказаў сваё жаданьне на адчыненьне больш 400 урадавых белар. школаў. Т-ва Беларускай Школы дайшло ў той час да максімум свайго разьвіцьця—асабліва ў галіне пазашкольнае асьветнае працы.

Той вялікі энтузіастычны пад‘ём, які пасьля ахапіў беларускія масы ў часе „Грамады“, даваў падставу думаць, што пачынаецца новая эра ў жыцьці Заходняй Беларусі. Цьвёрда верылася, што з гэтай пары беларускае друкаванае слова заваюе сабе належнае мейсца над сялянскай і работніцкай страхой на Беларусі. Лік падпішчыкаў на беларускія газэты значна ўзрастаў і дайшоў да свайго апогея ў 1926 г., калі газэта „Наша Справа“ (з Віленскай № 12—6) налічвала да 8.000 падпішчыкаў, а „Маланка“ больш 2.500. Але гэта быў толькі момант. У адносінах дзяржаўнае ўлады Польшчы да беларусаў зрабіўся рэзкі пералом, у выніку якога найактыўнейшыя правадыры „Грамады“ пайшлі за краты, а на іх мейсца прыйшлі людзі новыя, у большай частцы маладыя, гарачыя, непрактычныя. Яны ў гэтую цяжкую для беларусаў часіну павялі беларускую справу так няўдала, што за тры гады зьліквідавалі амаль увесь той культурны, палітычны і эканамічны дабытак, які вялізарным накладам энэргіі і працы прышлося здабываць у працягу не аднаго дзесятку гадоў, і ў канцы канцоў завялі беларускую справу ў такі тупік, з якога нават і самі ня бачылі ніякага выхаду.

(Даканчэньне ў наступным №).

